Цана асобнага нумару 300.000 м.

# Сын Беларуса



Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Выходзіць тры разы у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 3.600000 м.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 400.000 мк., сярод тэксту 300.000 м. і на 4 стр.250.000 м., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 4. Вільня, Нядзеля, 8-га чэрвеня 1924 г. Год I.

## Вывады.

Адзінкі і дзяржавы дужыя, моцныя ніколі не баяцца прызнацца да зробленых абмылак. *Ілжа і мана*—гэта аружжа слабых, сьвядомых свайго бязсільля.

Гэтая гістарычная праўда сама сабой прыходзе на думку, калі глядзіш на патугі польскага грамадзянства запярэчыць ачывістым фактам, зьмешчаным у пратэсьце францускіх грамадзкіх дзеячоў проці „белага. тэрору ў Польшчы“. Польскія рэакцыянеры—сучасныя паны палажэньня ў Польшчы, як відаць, дужа добра разумеюць, што іх сіла, іх панаваньне — ужо нядоўгія. Разумеюць, што толькі ілжой і маной яны йшчэ могуць нейкі час абдурываць і свой народ, і заграніцу, — але ўсяму гэтаму хутка прыйдзе канец. І, у поўнай сьвядомасьці сваей слабасьці і нядоўгавечнасьці, быццам мухі пад восень, яны кусаюцца тым больш балюча, ды бзыканьнем сваім хочуць заглушыць крыкі тых, каго кусаюць. Сымвалічным для польскае рэакцыі зьяўляецца той начальнік паліцэйскага „постэрунку“, які, як выкрыла соймавая камісія пана Тугута, у часе катаваньня арыштаваных загадываў музыцы іграць, каб ня чутно было крыкаў ягоных ахвяр....

Гэтак ілжа і мана „правіцы“, якая тужыцца паказаць, быццам „на Шипке все спокойно“, для нас зусім зразумелыя. Гісторыя паказуе, што паміраючая ўлада бывае заўсёды найгоршая. Але зусім незразумелым зьяўляецца становішча, занятае ў справе францускага пратэсту лідэрам польскае „лявіцы“, п. Тугутам: прэтэндэнты на ўладу, якія на сваім штандары пішуць лёзунг: „Rząd robotniczo-włościański“ (П. П. С.) і ў часе выбараў у Сойм сулілі народу залатыя горы („Вызволене“), пайшлі па тэй самай дарозе, па якой ідзе „правіца“, і гэтак сама, як польская рэакцыя, *баяцца сказаць праўду* аб сучаснай Польшчы. І ў гэтым мы можам бачыць хіба толькі адно: пачуцьцё, што і яны ня маюць пад сабой моцнага грунту ў народных масах, бо сьвядома вялі ўвесь час гэныя масы не дарогай барацьбы за іх вызваленьне—да поўнае і аканчальнае перамогі, а дарогай вечных кампрамісаў з істнуючым палажэньнем, дарогай прымірэньня з тым, што ёсьць,—за ўсякую цану....

Праўда, і сярод польскае „лявіцы“ пачынаюць ужо зьяўляцца галасы пратэсту проці палітыкі п. Тугута і яму падобных. І сярод дзеячоў „Вызволеня“, якое на нашых вачох разваліваецца, знаходзяцца людзі даволі моцныя і дужыя, пэўныя, што *іх імкненьні і імкненьні народных масаў—згодныя між сабой*. І гэтыя адзінкі сьмела глядзяць праўдзе ў вочы і публічна заўляюць: непавінны мы ў крыві і сьлёзах катаваных!

Мы з вялікім здаваленьнем адзначаем выступленьне на страніцах часопісі „Wyzwolenie Ludu“ пасла Рудзіньскага, які сцьвярджае праўдзівасьць закідаў, зробленых у францускім пратэсьце пануючай у Польшчы рэакцыі. „У розных галінах жыцьця мы маглі-бы паказаць рэакцыйныя мэтады, якія пярэчаць асноўным паняцьцям людзкасьці, а нават усякаму здароваму разсудку“, — піша пасол Рудзіньскі і заклікае да барацьбы з захватніцкімі імкненьнямі і дзікім обскурантызмам чорнае рэакцыі. Мы вітаем здаровую польскую народную мысьль, якая зьмешчана ў выступленьні п. Рудзіньскага і прадстаўляе запаведзь нарадзін *новае польскае „лявіцы“*.

Аднак, такія выступленьні ў польскім грамадзянстве — толькі лічаныя. Затое выкрыкі і сьвядома ілжывыя „пратэсты“ проці высока гуманітарнага выступленьня францускіх сацыялістаў у абарону правоў беларусаў і другіх уціскаsuccessfully меншасьцяў Польшчы — чытаем кожын дзень. Да гэтай кампаніі проці праўды далучылася нават і польская навука....

Якія-ж вывады з усяго гэтага для нас, беларусаў?

Вывады тутака могуць быць два. Першы: што пры сучасным стане і сучасных настроях вялізарнае большасьці польскага грамадзянства і прадстаўнікоў яго ў Сойме *нельга спадзявацца на якую-колечы перамену* ў палажэньні нашага народу пад Польшчай, бо гэтае палажэньне прызнана гэнай большасьцяй *„ідэальным“*. Другі вывад датычыць тых беларусаў, якія, веручы ў прыхільнасьць да нашага народу і шчырасьць польскае *афіцыяльнае* „лявіцы“ з п. Тугутам на чале, пайшлі ў рады польскае дэмакратыі—ці то на выбарах у Сойм (па сьпіскам „Вызволеня“), ці то ў апошнія часы — на грунце „Беларуска-польскага таварыства“, што пры найлепшых пажаданьнях бязсільна даць нейкія практычныя вынікі і толькі выкарыстоўваецца польскай рэакцыяй дзеля баламучаньня заграніцы, быццам запраўды „на Шипке все спокойно“. Запраўды, пара, даўно пара паслом-беларусам з партыі „Вызволене“ паправіць сваю абмылку і пакінуць недастойную „службу“ у чужых, — тым больш, што гэная партыя дажывае свае апошнія дні.... Пара і ўсім беларусам наагул *узыйсьці ўрэшце на свой уласны шлях—шлях беларускіх працоўных масаў*!

## Расейска-француская дружба і польскі тупік.

Польскія газэты зьмясьцілі кароткую тэлеграму з Парыжа аб тым, што там заснавалася таварыства Француска-Расейскай дружбы. Мэтамі гэтага Т-ва зьяўляюцца прызнаньне Радавага Саюзу, аднаўленьне даўнейшай расейска-францускай дружбы і адносінаў, апрацаваньне варункаў зблізкэньня палітычнага, эканамічнага і культурнага, і, нарэшце, прапаганда гэтае ідэі ўва ўсей Францыі.

Яно нічога, здаецца, дзіўнага ў тым, што ў Парыжу заснавалася такое таварыства. Але, калі паглядзець на справу з боку палітычнага, калі прыняць пад увагу, што ініцыятарамі гэтага таварыства былі выдатнейшыя францускія палітыкі, як напрыклад Эррыо, які будзе старшынёю францускага ўраду і міністрам заграічных спраў; Пэнлевэ, які будзе або маршалкам францускага парлямэнту, або нават прэзыдэнтам Францыі, — калі, кажам, прыняць гэта пад увагу, то само сабой паўстае пытаньне: *што ўсё гэта значыць?..*

Польская прэса, пачынаючы ад самае правае, зьвярына-чорнасоценнае і нацыяналістычнае — і канчаючы самымі „левымі“ газэтамі наагул *вельмі неахвотна* піша аб выніках і значэньні для палітычнага жыцьця Эўропы францускіх выбараў. Польская прэса, а з ёю і ўсе польскія партыі, ніколі не спадзяваліся таго, што францускі нацыяналізм зломіць сабе шыю, і што можа наступіць для рэакцыі крызіс. Па сваей блізарукасьці польскія партыі вялі палітыку ў тахт Пуанкарэ і зусім ня думалі і не рыхтаваліся да таго, што цяпер надыйшло і становіцца фактам.

Дзеля гэтага ні адна з польскіх партыяў ня можа яшчэ зразумець і правільна ацаніць, *ня можа арыентавацца* ў новым палажэньні, калі трэба думаць сваёю галавою, а не галавою Пуанкарэ.

Ня кажам ужо аб эндэках, якія зусім згубілі грунт пад нагамі. *Так званая „лявіца“ так сама ня ведае, што сказаць.* Нейкім дзіцячым лепетам здаюцца прамовы Домбскага, Недзялкоўскага і іншых, якія цяпер дамагаюцца адстаўкі міністра заграічных спраў графа Замойскага і іншых правых міністраў і думаюць гэтым выйсьці з таго тупіка, у якім апынулася ўся польская правая і „левая“ палітыка.

А справа стаіць так, што з правалам Пуанкарэ, гэтага злога генія, гэтага слупа міжнароднай рэакцыі, на Эўропэйскія загоны павеяла новым ветрам. **Выбары 11-га траўня ў Францыі аказаліся ня толькі пераломам унутранай палітыкі Францыі, як гэтага чакалі ў Польшчы.**

Выбары 11-га траўня былі пераломам — і то *галоўным чынам—міжнароднай* сітуацыі і міжнароднае палітыкі, і аб гэтым лепш за ўсё гаворыць заснаваньне француска-расейскага таварыства.

**Што значыць аднаўленьне старых адносінаў з Расеяй, зблізэньне палітычнае, эканамічнае і культурнае, якое праклямуе Эррыо?**

**Гэта значыць, што Вялікая Француская Рэвалюцыя—насьледнікі Робэсп'ера—падаюць руку Вялікай Рэвалюцыі Расейскай, насьледнікам Леніна.**

**Гэта значыць, што з правалам Пуанкарэ — ня толькі францускі нацыяналізм і француская рэакцыя асталіся без галавы, а што наагул нацыяналізм, шовінізм, наагул рэацыя пачынае губляць грунт пад нагамі і асабліва ў тых дзяржавах, якія знаходзіліся пад уплывам рэакцыйнае Францыі.**

У першую чаргу гэты правал рэакцыі адчуваецца і ў радох цяперашніх гаспадароў Польшчы. Мы ня ведаем, што будзе рабіць цяпер нават самая крайняя „лявіца“ Польшчы.

Добра быць такою дзяржаваю, як Францыя. Яна можа павярнуць налева кругом, і ад гэтага павароту яна можа нават выйграць.

А што могуць зрабіць цяпер польскія палітыкі?.. Іх палажэньне зусім незавіднае, бо за пяць гадоў свайго тупога панаваньня яны давялі сваю дзяржаву да таго, што цяпер ніхто ўжо ня можа паверыць у шчырасьць якіх бы то ні было абяцанак, **ніхто маральна не падтрымае тых, хто марна страціў вялікую спадчыну польскіх паўстанцаў.**

Калі-б польскія палітыкі цяпер ішлі ўсьлед за францускімі, як гэта хочуць рабіць „Вызваленцы“ і „П.П.С.“,—дык і ім прышлося-б так, як і Эррыо, гаварыць кампліманты бальшавізму.

Але гэтага ніколі ня будзе, бо па сутнасьці сваёй сучасная Польшча варожа да С.С.Р.Р., і наадварот.

Адным словам, дзень 11-га траўня, дзень выбараў у Францыі, калі левы блёк узяў верх над францускім рэакцыйна-нацыянальным блёкам, будзе гістарычным паваротам для ўсяе Эўропы.

У гэты дзень паваліўся самы моцны слуп пасьляваеннае рэакцыі. **Па свайму значэньню правал Пуанкарэ можна параўнаваць з правалам Маскоўскага царызму ў лютым 1917 года.**

Магчыма, што ня так хутка, не сягоньня і ня заўтра, але няўхільна ўсьлед за правалам Пуанкарэ, правaліцца нямецкі нацыяналізм, польскі нацыяналізм і італьянскі фашызм. Бязумоўна адно, што для чорнае рэакцыі ў Эўропе наступяць скора чорныя дні.

Для беларускага адраджэньня і наагул для беларускага руху, які пачаўся пад уплывамі Вялікай Францускай Рэвалюцыі ў пачатку 19-га веку, і які паглыбіўся і пашырыўся ў масах пад уплывам Вялікай Расейскай Рэвалюцыі ў пачатку 20-га веку, — прымірэньне паміж гэтымі двума рэвалюцыямі нясе ня тупік, а выхад на шырокі шлях, нясе яшчэ большую веру і надзею, што час поўнае перамены палажэньня нашага народу набліжаецца.

**В. В.**

---

**Просімо ўсіх нашых паважаных грамадзян падпішчыкаў. якія неакуратна атрымліваюць газэту, рабіць спачатку справкі на мясцовай пошці, а тады з гатовымі ад яе адказамі зварачэацца да нас.**

**Адміністрацыя.**

